II-гі ГОД ВЫДАНЬНЯ

Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі.




№ 5 | Сакавік 1926 г. | Менск

**У міжнародны дзень жанчын сялянскія дзяўчаты павінны яшчэ цясьней згуртавацца вакол маладога, бадзёрага будаўніка новай савецкай вёскі, вакол Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі, змагацца за жаночае роўнапраўе!**




З. Бандарына

## Работніцы

Сястрыца-работніца!
Завілую сьцежку,
што доля-пакута
вякамі спляла,
збуцьвелую рану,
на сэрцы жаночым
чырвоная плынь
назаўсёды зьнясла.
Сястрыца-работніца!
Ты долю жаночую,
долю калісьці
сваю пракляла.

А зараз ня тое—
на сходзе ў савеце
правы ты свае знашла.
Работніца фабрыкаў,
сёл дэлегатка,
мінулую праўду
дачцэ раскажы.
Хай успомняцца годы працяглай пакуты,—
мінулае думкай
пад час заімжыцъ...

19-І-26 г.



Сяргей Дарожны

# На сваёй старане

(*Поэма*)

Ах, старонка, а лес, а балоты
Ды прастораў аўсяны звон,
Ў ціхім шэпаце траў ля плоту
Сьняць зары залацісты сон.
Між лугоў заблішчэлі балоты
І сінеюць знаёмыя гаці.
Ах, як хочацца скінуць боты
Ды надзець берасьцяныя лапці.
Да з касою ў траве мурожнай
Да пажару ў грудзёх касіць,
Каб вятры ўскіпалі над пожняй,
Маю стому ў плячох гасіць.
Эх, люблю падпяваць звону сталі
У зялёным агні травы!
І ня помніш, як рукі прысталі,
Як шуміць вецярок баравы.
А у вечар, бывала, з ахвотай
На гулянках у летнюю ноч
Абдымаеш дзяўчыну ля плоту,
Весяліся душа—як хоч!..
І такая была вясёласьць,
А цяпер, то уцеха, то сум...
Ах, вы, ціхія, шэрыя сёлы,
Вам у песьнях я радасьць нясу!
Усё прашло, як туман з балот,
Толькі рэчкі блішчыць рукаў.
Пасівела каліна ля плоту,
І касіць пазабыла рука.
Але ўсё-ж і цяпер засела
Ў мяне буйнасьці звонкай пячаць.
І прапахлыя песьні сенам
І цяпер пра сяло крычаць.
Ой ты, край залацістага збожжа!
Сінім чадам стаіць сонцавей.
А жніво, а дзяўчаты прыгожыя!
Не адну прытуляў да сябе.

* * *

Мне казалі аднойчы людзі:
Што жыцьцё на палёх весялей,
Дзе далінамі вецер блудзіць
І гармоніць-зьвініць на сяле.

* * *

Ці ад хмелю ці, можа, нарокам
Шум зялёны вятрок страсануў.
Толькі я уяжджаў далёка...
На чужую зусім старану.
Ад таго пад бярозаю ростань
Помню я, як і гэты дзень.
І быў ціхім такім і простым,
Быццам сонечны сьмех на вадзе.
А яна мне у вочы глядзела,—
Доўга так, бы шукаючы дно...
І трымцела, бы цень на вадзе:
Што ў сяле будзе сумна аднэй.
Над далінаю віўся туман,
—Ня сумуй, ня журы, што сама
Я прыеду к табе на вясьне,
Калі ў полі расплавіцца сьнег.

* * *

Не хадзіць па траве больш нагой
Мне з касою ў лугох Беларусі.
На пясчаных губах берагоў
Лозы вырасьлі ў сінія вусы.
Віўся воўнаю дым ад вады
І пунсовыя далі ліналі.
Ах, якім я простым і маладым
Быў тады, хоць і ведаў мала...
А цяпер гэта мілае поле
Стала песьняю мне зьвінець,
І знаёмая радасьць да болю
У вачох пачынае сінець.
Ну, і як-жа, ну як маўчаць
Пра азёрную ціш і лясы,
Дзе вясёлыя песьні дзяўчат
Над снапамі кладуць паясы.
Дзе шуміць, як разводзьдзе, збожжа
І дыміцца жытнёвы чад.
На растаньні дзяўчыну прыгожую
Цалаваў і глядзеў назад.
Над далінамі віўся туман,
—Ня сумуй, ня журы, што сама
Мо' прыеду, а можа і не,
Калі высахне ў полі сьнег.

---

Была вясна. І звон сачылі
Сівыя ветры на дарозе.
Я ўспоніў мілую дзяўчыну
І нашу ростань пад бярозай.
Павеяў вецер, мне здалося, родны
І сінь азёрная, здавалася, блішчыць.
Мая душа шукала броду...
І грудзі стыглі у блакітны шчыт.
А май зьвінеў і кучаравіў,
Вясёлы май,—пастух вясковы...
Мой конь ляцеў. Шумелі травы,
Глытаючы яго падковы.
Вось стары на шляху паўстанак,
Зубцамі хвой спыніў наш ход.
І я убачыў зноў сутулы ганак,
Які ня бачыў роўна год.

* * *

Зноў вясёлыя хаты... і песьні,
І бярозавы гай за сялом.
Ах ты, край, звон сасновы Палесься!
З туманамі іржавых балот.
Вось у хаце асмуглай, хаце,
Дзе я ўзрос і на ногі стаў,
Я убачыў—вісіць на плякаце
Ціхі Ленін замест хрыста.
А на прызьбе, дзе калісь дзеці,
Вялі гоман вясёлай гульні,
Хлопчык дзеду чытае газэту
Пра вясёлыя нашы дні.
Мілы край! разьвясёлае поле,
Як пажар, залаціцца быльнёг.
Палюбіў я у песьнях да болі
Тваю радасьць і сум на палёх!..

---

26/II 26 г. Менск.



# ЛЕНІНСКАЯ КОМСАМОЛІЯ

## Праца комсамолу ў вёсцы

*(Даклад тав. Ратнэра на 8-ым Усебеларускім зьезьдзе ЛКСМБ)*

### Рост нашае гаспадаркі. Заданьні партыі і комсамолу ў вёсцы.

14-ты партыйны зьезд ахарактарызаваў наступным парадкам асаблівасьці бягучага моманту. За апошнія часы наша старонка перажыла буйны гаспадарчы ўзрост, рэзка павысілася ўдзельная вага соцыялістычных элемэнтаў гаспадаркі. Разам з ростам соцыялістычных элемэнтаў гаспадаркі расьце абсолютна прыватны капітал, растуць кулацкія гаспадаркі ў вёсцы, памацняецца расслаеньне і пры ўздыме серадняцкіх гушчаў памацняецца кулацкая частка, пролетарызуецца частково беднаты.

Цяпер другое Чужыя, варожыя нам капіталістычныя элемэнты імкнуцца да заўладаньня асноўнымі гушчамі сялянства, сераднякамі. Характэрным для апошняга пэрыоду зьяўляецца ўзрост актыўнасьці ўсіх гушчаў, усіх клясаў і груповак краіны. Вырасла актыўнасьць і варожых нам элемэнтаў. Адсюль вынікае шэраг важнейшых заданьняў, якія стаяць перад партыяй у вёсцы. У васноўным гэтыя заданьні наступныя: барацьба за ўплыў на серадняцкія гушчы, якія складаюць галоўную частку сялянства, барацьба за ўплыў таму, што бяз гэтых серадняцкіх гушчаў мы пабудаваць соцыялізму ў нашай краіне ня зможам.



Новы сэкратар ЦК ЛКСМБ, абраны на VIII Усебеларускім зьезьдзе комсамолу, тав. БАРАНЬНІКАЎ

Асноўнае заданьне—гэта організацыя беднаты і батракоў, замацаваньне саюзу пролетарыяту і беднаты з серадняком супроць кулака для соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы праз коопэраваньне, праз колектывізацыю сельскае гаспадаркі. Нарэшце, яшчэ задача гэта—скарыстаньне ўзросшай палітычнай актыўнасьці працоўнай часткі сялянства — бядняцкіх, серадняцкіх гушч для ўцягненьня іх к больш актыўнаму ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, у ажыўленьні працы сельсаветаў і г. д.

Вось, каротка, тыя асаблівасьці бягучага моманту і тыя асноўныя заданьні, якія партыя высоўвае перад сабою ў вёсцы.

Вядомая справа, што наш комсамол зьяўляецца першым памоцнікам партыі ўва ўсёй яе працы і таму зусім зразумела, што заданьні, якія стаяць перад партыяй у вёсцы, у васноўным адзначаюць і заданьні комсамолу ў вёсцы.

### Вымаганьні сялянскай моладзі. Актыўнасьць.

Той буйны ўзрост, які перажыў наш комсамол за апошнія часы, сьведчыць у дастатачнай меры аб тым, што палітычная актыўнасьць сялянскай моладзі вельмі вырасла.

Мы ў асноўным кажам, што сялянская моладзь, яе бядняцкія і серадняцкія слаі імкнуцца да палепшаньня свайго матэрыяльнага становішча праз уздым гаспадаркі, імкнуцца к таму, каб падняць палітычна-культурны ўзровень, атрымаць практычныя, патрэбныя ў гаспадарцы веды. Ёсьць імкненьне да стварэньня больш культурных абставін у сябе, у вёсцы, да арганізаваньня вольнага часу, больш разумнага адпачынку.

Бядняцкая частка, якой жыць у сябе на гаспадарцы кепска, вельмі дужа імкнецца папасьці на прадпрыемства—фабрыку, папасьці ў вучэбную ўстанову. Такое імкненьне мы прыкмячаем і сярод серадняцкай моладзі.

Гаворачы аб актыўнасьці сялянскай моладзі, прыходзіцца сказаць, што і актыўнасьць гэтых розных слаёў неаднолькава. На пленуме ЦК ЛКСМБ і акруговых конфэрэнцыях мы ўсе зьвярталі ўвагу на тое, што цяпер прыкмячаецца некаторая розная стопня актыўнасьці батрацкай, бядняцкай і серадняцкай моладзі. Хоць актыўнасьць бядняцкай і серадняцкай моладзі вырасла ў параўнаньні з тым, што было ў мінулыя гады, але ўсё-ж такі гэта актыўнасьць у галіне грамадзянскага і палітычнага жыцьця менш, чым актыўнасьць серадняцкай моладзі. Гэта тлумачыцца тым, што бядняцка-батрацкая моладзь больш адсталая.



Прэзыдыум VIII Усебеларускага зьезду Комсамолу.

Вырасла ня толькі блізкіх нам слаёў актыўнасьць сялянскай моладзі, расьце таксама актыўнасьць чужых, варожых да нас слаёў, расьце актыўнасьць у кулацкай часткі моладзі.

## Барацьба за ўплыў на моладзь.

На цэлым шэрагу акруговых конфэрэнцый і з шэрагу абсьледваньняў мы бачым факты, што кулацкая частка вельмі часта імкнецца папсаваць працу ў комсамольскай ячэйцы, імкнецца згрупаваць моладзь супроць яе, што гэта кулацкая частка прэтэндуе на тое, каб кіраваць моладзьдзю. Гэта мы павінны памятаць, калі гаворым аб далейшай працы ў вёсцы.

У рэзолюцыі 14-га партыйнага зьезду гаворыцца, што паглыбляючыяся клясавыя процівалегласьці, рост новае буржуазіі ў горадзе і ў вёсцы азначае, такім чынам, і паглыбленьне барацьбы за моладзь.

Варожыя нам капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі будуць весьці цяпер барацьбу за ўплыў на моладзь. У ўмовах Беларусі мы прыкмячаем шэраг фактаў, якія падтрымоўваюць правіловасьць гэтага.

Намячаючы чарговыя заданьні працы, мы павінны помніць, што нам прыдзецца працаваць у ўмовах узрастаючай актыўнасьці варожых элемэнтаў, у ўмовах, калі гэтыя элемэнты будуць змагацца за ўплыў на моладзь.

## Недахопы нашае працы ў вёсцы.

Першае, што ўжо агульна зьяўляецца і нікім не адмаўляецца, што праца ў вёсцы не абхапляе сабою і не задавальняе экономічных і культурных вымаганьняў сялянскай моладзі.

Калі мы возьмем нашу экономічную працу ў вёсцы, пастаноўку сельска-гаспадарчай пропаганды, сетку школ, якія павінны зблізіць моладзь вёскі, калі мы возьмем, нарэшце, як мы арганізуем вольны час, дык угледаем, што ў гэтай галіне маецца вялікі недахоп.

Другое—гэта, што мэтоды працы ў вясковых ячэйках і організацыях таксама ня вельмі прыстасованы к тэй актыўнасьці, якая цяпер характэрна для сялянскай моладзі і комсамолу.

Трэцяе, найбольш слабое месца ў нашай працы—гэта тое, што да гэтых часоў ува ўсёй працы мы вельмі мала ўсьпелі ў галіне палітычнай апрацоўкі таварышоў, у галіне пастаноўкі паліт-вучобы.

З гэтай прычыны маецца шэраг ненармовых зьяў, неразуменьне сутнасьці нашага саюзу і кіраўнічай ролі партыі і г. д.

Чацьвертае—гэта павялічэньне недысцыплінаванасьці, вядомая зьмена складу нашае організацыі.

Пятае—слабасьць актыву.

Шостае—гэта тое, што да гэтых часоў партыйнае ядро ў нашае організацыі застаец-

ца вельмі невялікім, што ў шэрагу месц яшчэ няма поўнага кіраўніцтва з боку ніз- шых партыйных організацый.

Нарэшце, яшчэ адзін недахоп—гэта, што наша практычнае кіраўніцтва мае часта не-калькі павярховы характар і ня носіць здавальняючага жывога характару. Назіраецца да гэтых часоў у некаторых ячэйках непраўіловае ўразуменьне таго, як кіраваць узростам, некаторая небясьпека ўзросту, некаторае штучнае затрымоўваньне ўзросту. Нарэшце, малое паняцьце таго, як трэба падыходзіць пры прыёме ў саюз бедняка, батрака і серадняка, прад'яўленьне аднолькавых запатрабаваньняў. Гэтыя недахопы зьяўляюцца галоўнейшымі ў працы вясковых ячэек і організацый.

### Якія заданьні паўстаюць перад намі?

Мы, у першую чаргу, павінны паставіць узмацаваньне партыйна-пролетарскага кіраўніцтва. Трэба дабіцца таго, каб кіраўніцтва збоку партыйных ячэек комсамольскімі ячэйкамі было на самым дзеле замацована і было-б штодзенным. 9-ты зьезд КПБ(б) намеціў шэраг практычных прапаноў і абавязаў партыйную організацыю праводзіць іх у жыцьцё.

Нам трэба дабіцца ажыцьцяўленьня гэтых мерапрыемстваў. Мы ведаем, што многа партыйных ячэек проста фізычна ня могуць абслугоўваць комсамольскіх ячэек і наш актыў. А з гэтай прычыны, комсамольскія ячэйкі і актыў не павінны чакаць, покуль прыдзе партыйная ячэйка, або партыец і будзе вучыць іх, а прадстаўнік комсамольскае ячэйкі павінен сам пайсьці ў партыю, папытацца парады, як працаваць. Перад намі стаіць заданьне павялічэньня партыйнага ядра. Трэба гаварыць ня толькі аб павялічэньні колькаснага парт-ядра, але і аб якасьці нашага партыйнага ядра. Мы маем колькаснае павялічэньне парт-ядра, але якаснае працягвае заставацца слабым. Трэба прыняць шэраг практычных мерапрыемстваў для таго, каб палепшыць і якасьць партыйнага ядра. У адносінах замацоўваньня партыйнага ядра ёсьць тры моманты: далейшае павялічэньне колькасьці, затым якасьці і трэцяе—старацца зьнішчыць мэханічную перадачу ў партыю.

### Замацаваньне партыйна-пролетарскага кіраўніцтва.

У галіне партыйна-пролетарскага кіраўніцтва наступныя заданьні: замацаваньне сувязі з ніжэйшымі партыйнымі організацыямі, далейшае высоўваньне актыву з батрацкіх і лепшых серадняцкіх элемэнтаў моладзі, выхоўваньне іх і падняцьце політычнага і культурнага ўзроўню актыву.

Трэба пачаць вучыць нашы вясковыя організацыі ня толькі, што рабіць, але вучыць, як рабіць.

### Пра серадняцкую моладзь.

Пленум ЦК ЛКСМБ сказаў, што трэба і далей уцягваць у саюз лепшую частку серадняцкай моладзі.

Мы заўважылі такі факт, што ў некаторых ячэйках прыкмячаюцца непаразуменьні між комсамольцам бедняком і серадняком. Такія зьявы трэба выкараніць.



Дэлегаты на VIII Усебеларускім зьезьдзе Комсамолу Полацкай акругі.

### У галіне ўзросту.

І нарэшце, з галіны ўзросту—гэта ўсякае зьнішчэньне затрымліваньня, разбуханьня; старацца ўхіляцца „самацёку“ і праводзіць больш уважлівы прыём у нашу організацыю. Мы павінны сачыць за тым, каб падлік быў правіловы, каб было правіловае ўяўленьне адносна прыёму ў саюз батракоў, беднякоў і серадмякоў.

### Пару слоў аб працы сярод батракоў.

Перад намі стаіць заданьне падняцьця ўдзельнае вагі батрацкае моладзі. Гэта част-

ка моладзі яшчэ вельмі адсталая, цёмная і забітая. Мы да гэтых часоў гналіся за кольkaсьцю дагавораў, але не назіраем за выпаўненьнем іх. У галіне экономічнай працы трэба дабіцца, каб дагаворы на справе выпаўняліся. Далей. Трэба падняць культурны ўзровень батрака, зрабіць яго граматным. Гэта вельмі цяжка з тэй прычыны, што батрацтва раскідана, але ўсё-ж такі трэба зрабіць усё магчымае.

Наша батрацтва раскідана, а вядома, трудна працаваць сярод іх; так трэба высунуць такіх групавых, індывідуальных організатараў батрацтва, якія-б па заданьні ячэйкі працавалі сярод іх.

### Комсамол і дзяўчаты.

Посьпехі ў гэтай галіне будуць толькі тады, калі не абмяжуемся тым, што будзем запрашаць дзяўчат у комсамол, будзем наладжваць мітынгі, а ўцягнем гэтых дзяўчат у вячэрнія школы, пункты ліквідаваньня няпісьменнасьці, ствараючы абставіны, якія больш падходзяць для іх.

Калі мы гаворым аб заданьнях нашае далейшае працы сярод дзяўчат, калі мы хочам уцягнуць іх у шэрагі нашага саюзу, дык трэба зьвярнуць увагу на выхаваньне тэй часткі, якая знаходзіцца ў шэрагах нашага саюзу.

Мы ня мала маем дзяўчат у саюзе, якія нічога ня робяць, вельмі пасыўных, ніколі нявыказваючыхся, і ня маючых ніякай працы. І, зразумела, калі дзяўчына, якая знаходзіцца ў комсамоле, нічога не атрымоўвае, дык беспартыйныя, гледзячы на яе, гавораць, што комсамол нічога не дае.

Вось тое становішча, у якім знаходзіцца наш вясковы комсамол, і адгэтуль вось тыя заданьні ў працы, якія патрэбна праводзіць у жыцьцё вясковым комсамольскім ячэйкам.

Д. Ратнэр.

---

Астап Вішна

## Язэп Патрушка—комсамолец-душка

„Трэба памятаць, што часамі растраты і пакражы робяць самі комсамольцы; вось чаму комсамольскім організацыям трэба ўважлівей адносіцца да высоўваньня комсамольцаў на працу, зьвязаную з аховай грошай альбо тавараў“.
*(З аднаго з артыкулаў).*

Жыла сабе, была сабе коопэрацыйная крамка на аднэй з вёсак зямліцы савецкай.

Жыў сабе, быў сабе комсамолец Язэп Патрушка, любіў пакурыць, любіў і перакуліць...

І ня любіў комсамолец Патрушка—не хлапец, а душка—ячэйкавай нагрузкі.

— Што мне культасьветпраца?

— Нашто мне дапрызыўнікі?

— Навошта мне драмгурток, політгурток?

— Пашто?

Так увесь час казаў Патрушка, комсамолец-душка...

— Вось мне-б „гаспадарчую“ працу...

І накіравала ячэйка Патрушку, комсамольца-душку на працу ў коопэрацыі.

— Няхай выявіць сябе там... Мо' і спраўдзіць...

І пачаў Патрушка, комсамолец-душка, у коопэрацыі працаваць, сваю гаспадарчасьць па крысе выяўляць...

Выяўляў-выяўляў, пакуль ажно й выявілася...

А калі ўжо выявілася, узялі Патрушку за яго душку і прывялі перад сьветлыя вочы законнасьці рэволюцыйнай.

І запытала Патрушку, комсамольца-душку, законнасьць рэволюцыйная:

— Вінен?

— Не!

— Як не? Браў?

— Браў!

— Знача, вінен?

— Не!

— ?!

— Комсамольская ячэйка вінна, бо яна мяне накіравала...

І засмутнелі вочы ў законнасьці рэволюцыйнай... і пахіліла яна галаву...

. . . . . . . . . . . . .

І чуцен голас быў з ЦЭКА:

— Да ня будзе-ж няхай у комсамольскай організацыі жаднага такога, каго-б комсамольская організацыя палохалася-б пасылаць на абы-якую працу...

... Ашчэ-ж у комсамольскай організацыі знайдзецца хаця-б адзін, што яму комсамольская організацыя даручыць, чаго ня зможа,—да нашле оная комсамольская організацыя онага сябра... з комсамолу...

Вось і ўсё.

# ПА КОМСАМОЛЬСКАЙ БЕЛАРУСІ

## Школа сялянскай моладзі ідзе па правіловым шляху

*(Санюкоўская ШСМ Каралін. раёну, Мазыр. акр.)*

Нядаўна Санюкоўская школа сялянскай моладзі сьвяткавала юбілей свайго аднагодняга існаваньня: пры атмосфэры поўнага недавер'я і няпрыхільнасьці ў прошлым годзе, пад ініцыятывай комсамольскай організацыі школа стала закладваць свой фундамант.

З мяст. Нароўлі школа прымушана была перакачаваць у другі раён, у маёнтак „Санюкі“. Прышлося чуць наладжаную працу школы пачынаць спачатку.

Дружна, як мурашкі, узяліся за працу вучні школы, набраныя непасрэдна з сялянскіх гаспадарак. Гаспадарка школы відавочна пачала ўзмацняцца. К вясьне школа паказала свае першыя дасягненьні: надзяліла сялян добрай расадай капусты, організавала паказальны сельска-гаспадарчы гурток на 70 чалавек, куды большай часткай уваходзілі дарослыя сяляне і г. д.

Па ініцыятыве самых вучняў у дзень юбілею былі закліканы бацькі ўсіх вучняў, з якіх большасьць прыехала.

Неабходна адзначыць асаблівыя моманты з прывітальных слоў сялян. Пасьля прывітаньняў ад АК КПБ, Акр. Спаўняючага Камітэту, АК ЛКСМБ і інш., у якіх адзначаны быў чынны ўдзел комсамолу ў організацыі школы, просіць слова селянін, які прыехаў за 30 верст да свайго сына. Вось точныя словы яго: „Комсамол—гэта наша надзея і „ўлада“. Комсамол наша „асьвета“. Мой сын, які пабыў у школе, стаў другім, нават стаў лепшым гаспадаром, чым старэйшы жанаты сын. Сэрдца радуецца, кажа стары, глядзячы, што майго сынка так хутка навучылі быць гаспадаром. Вось гэта, кажа, будзе камунія“.

Пасьля гэтага селяніна выступала яшчэ некалькі, якія выказвалі тую-ж




думку. Назаўтра адбылася конфэрэнцыя бацькоў, дзе адміністрацыя школы адчытвалася перад імі аб становішчы і працы школы, яе гаспадарцы і г. д.

Бацькі адзначалі недахопы, якія меліся ў працы, папраўлялі іх. Відаць, што школа сялянскай моладзі служыць і асяродкам культурнага і бытавога жыцьця сялянскай моладзі.

Ячэйка ў в. Санюках, куды ўваходзяць і вучні школы, з кожным днём расьце і ў сучасны момант налічвае каля 60 чалавек. Вучні школы ў хуткім часе на 100 проц. будуць у комсамоле; некаторым перашкаджае іх моладасьць.

Бязумоўна, ёсьць у школе і недахопы, але, пры маючыхся дасягненьнях, яны мала прыкметны.

У канцы прыходзіцца толькі адно пажадаць: больш школ сялянскай моладзі і ўвагі ім.

**Прысутны.**

## Трэба падцягнуцца

*(с. Долас, Чэрыкаўскага раёну)*

У нашай вёсцы амаль што кожнае рэлігійнае сьвята мясцовая моладзь наладжвае вечарынкі. На вечарынках зьбіраюцца хлопцы заўжды добра падвыпіўшы самагону і, як і трэба спадзявацца, часта закачваюцца вечарынкі бойкамі, дзе ідзе ў справу ўсё, што падвернецца пад рукі.

Комсамольская ячэйка таксама організоўвае вечарынкі, у програму якіх



уваходзяць шматлікія пытаньні і гульні, карысныя для моладзі. Але і гэтыя вечарынкі не праводзяцца спакойна, заўсёды хто-небудзь з сабраўшыхся выкіне пару якіх „нумароў“. Як прыклад— быў вечар праводаў у Чырвоную армію 1903 г.,—ну, героі вечару ад жалю, мабыць, хлебанулі здорава самагону і пачалі біцца.

На жаль, прымаюць удзел у бойках і асобныя таварышы комсамольцы. Ячэйка глядзіць на гэта скрозь пальцы, ня прымае належных крокаў да зьнішчэньня такіх выхадак некаторых сяброў.

Між тым гэта мае дрэнныя вынікі: комсамол пачынае губляць аўторытэт сярод жыхарства, спынілася далейшая цяга беспартыйнай моладзі ў ячэйку, паслабляецца дысцыпліна.

Калі самі комсамольцы не падцягнуцца, калі не дапамагаюць словы сэкратара ячэйкі, патрэбна, каб Райкамол паставіў на сваё месца некаторых таварышоў і даў указаньні ячэйцы.

**Жук М.**

## Комсамол! Узмацняй агітацыю сярод сялян за новую вёску

*Агітатары за новую вёску.*

Адным з агітатараў за новую вёску зьяўляецца комсамол. Комсамольцы тлумачаць сялянам тую карысьць, якую дае пераход на пасёлкі. Яны зьяўляюцца правадырамі агрономіі. Калі, напрыклад, уваднэй вёсцы (Кацельнікі, Капыльскага раёну, Случчына) захва-




рэла цялушка (аб'елася), то гаспадар хацеў бегчы па шаптуху, але адзін комсамолец паглядзеў у журнал „Сам сабе агроном“ і, узяўшы лыжку ваяны, распусьціў яе ў вадзе і даў выпіць цялушцы. Цялушка скора папраўлялася, і ўсе зьдзівіліся добрай дапамозе.

Сяляне пачалі цікавіцца комсамольскай бібліотэкай і наперабой бяруць розныя кніжкі.

---

Надта цікавяцца сяляне, калі вычытаюць што-небудзь пра сваю вёску. Заглядзяць комсамольцы, што несправядліва—у газэту.

**Антось Кулікоўскі.**

## Лепш на вечарынку

*(Падзехцярская яч., Меншчына)*

Некаторыя комсамольцы не заўважаюць таго, што ім неабходна знаць, і прапускаюць гэта міма вушэй. Так, напрыклад, Сьвідзінскі Мікола кажа: лепш схадзіць на вечарынку і паскакаць там, чым сядзець цэлы вечар і непатрэбным галаву забіваць. А разам з гэтым зусім мала палітычна разьвіт.

Ячэйка, зьвярні ўвагу на політадукацыю і падцягні такіх, як Сьвідзінскі Мікола.

**Комунар.**

## Непрабуджаная цемра.

*(В. Капейна, Дрычынскага сельсавету, Меншчына).*

Яшчэ да гэтага часу вясковая Капейнаўская моладзь не прачнулася і знаходзіцца ў поўнай цемры, несьвядомасьці і неорганізована.

У свабодны час зьбіраецца моладзь на вечарынкі, напівацца самагону і

пачынаюцца бойкі-бясчынствы,—ідуць у ход ножыкі, кулакі і інш.

Адсутнічае школа, няма хаты-чытальні, а разам з гэтым і літаратуры. На ўсю вёску няма ні аднаго комсамольца і наогул моладзь не ўяўляе сабе мэт і карысьці Комсамолу, а калі



маецца частка моладзі зразумелай, то гэта частка блудзіць, ня ведаючы з чаго пачаць.

Дрычынскай ці Рудзенскай ячэйкам Комсамолу, якія блізка знаходзяцца ад гэтай вёскі, трэба зьвярнуць на гэта ўвагу, організаваць моладзь і павесьці сярод яе належную працу. Язэп.

## Ячэйка Мопр'у сьпіць

У Дукорскай сямігадовай школе маецца 69 чалавек—сяброў Мопр'у, але, ня гледзячы на значны лік, ніякай працы між імі не праводзіцца і шмат сяброў-вучняў ня ведаюць, нават, што такое Мопр і якія мэты перасьледвае гэта організацыя.

Тлумачыцца гэта несьвядомасьць тым, што ячэйка Мопр'у пры сельсавеце, куды ўліваюцца і гэтыя 69 чалавек, не дае ніякага рукаводзтва ў працы, не паклапацілася даць належныя тлумачэньні, інформацыі аб працы Мопр'у і г. д.

Вядома, што пры такім становішчы ўсякая праца замрэ і сяброўства будзе мець характар кампаніі.

Каб выжыць гэта, неабходна організаваць ячэйку Мопр'у пры самой школе і, павёўшы як належыць працу, можна спадзявацца, што будзе абхоплена ўсіх 100 проц. вучняў.

Мікола.



## Ячэйка заслугоўвае пашану ад сялян

Наша Койданаўская ячэйка пры сельсавеце пачала выдаваць раённую насьценную газэту пад назвай „Думкі селяніна", якой ужо вышла два нумары.

Сяляне цікавяцца газэтай і ўхваляюць яе выданьне, лічачы гэта карысным.

Юнкор Адашчык.

## Комсамольцы маюць аўторытэт

Перавыбары Варатаўскага сельсавету Смалявіцкага раёну ў гэтым годзе паказалі, што комсамольцы маюць аўторытэт сярод мясцовага сялянства. Калі абгаварваліся кандыдатуры комсамольцаў, з боку сялян чуліся добрыя



водзывы, што гэта хлопцы—дзелавыя, павядуць добра справу і, не разважаючы, галасавалі за іх.

У выніку сэкратаром сельсавету выбраны комсамолец; большасьць сяброў сельсавету таксама комсамольцы. Старшынёй выбраны дэмобілізаваны чырвонаармеец.

Янка Кім.

## Маем вячэрнюю школу сялянскай моладзі

*Чырвоная Слабада*

Па стараньні нашага райкому КСМ цяпер у нас адчынена вячэрняя школа, у якой ахоплена каля 40 чалавек хлапцоў беспартыйнай моладзі, але ўсётакі лічба гэта вельмі малая і комсамольская ячэйка павінна ўцягнуць яшчэ больш моладзі ў школу.

Тарапавіч.





## Проста аж сорамна

*(Сьмілавіцкі раён)*

У сваіх пастановах комсамольская конфэрэнцыя нашага раёну вырашыла пытаньне аб беларусізацыі. У рэзолюцыі сказана—неадкладна перайсьці на беларускую мову. Аднак, дагэтуль Сьмілавіцкі раён ня выконвае пастановы конфэрэнцыі. Гледзячы на яго, не сьпяшаецца пераходзіць на сваю родную мову і Рудзенская ячэйка Комсамолу.

Сам Райком затрымлівае правядзеньне ў жыцьцё пастаноў конфэрэнцыі, даючы яшчэ праз гэта і прыклад ячэйкам. Сорам, хлопцы!

Зал.





# Сельская гаспадарка

## С.-г. гурток—школа маладога аратага.

Нават і тая частка маладых аратых, якая праходзіць вучобу ў вясковых школах, патрабуе ўзмацненьня с.-г. ведаў і практычнага азнаямленьня з лепшымі спосабамі сялянскае працы.

Яшчэ больш патрэбы ў гэтым адчуваецца тымі маладымі хлапцамі, якім ня прышлося карыстацца сямігодкамі з с.-г. ухілам і адукацыя якіх абмежавалася чатырохгодкаю.

Лепшым сродкам папаўненьня практычных ведаў, лепшай крыніцай вопыту і вывучэньня зьяўляецца с.-г. гурток.

У існаваньні с.-г. гурткоў, у іх працаздольнасьці і шырокай ініцыятыве зацікаўлена ўсё маладое пакаленьне нашых вёсак.

С.-г. гурток—гэта клюб маладых профэсыяналаў-хлебаробаў, гэта іх першы вопытны вучастак справы сваіх рук, сваіх ведаў і свае колектыўна-грамадзянскае волі.

Будучына сельскае гаспадаркі патрабуе сьвядомай інтэлігенцкай працы і грамадзянскага пачуцьця супольнасьці справы.

На прыкладзе старых вёсак і яшчэ неаб'яднанай часткі маладога пакаленьня відаць, як занядбалы нашы адносіны да сельскае гаспадаркі і якое яшчэ існуе неразуменьне яе сутнасьці. Справа часам даходзіць да таго, што лёс селяніна лічыцца няшчасьцем, і гэта у той час, калі сельская гаспадарка на падставе навуковых дасягненьняў і шырокага аб'яднаньня сіл зможа зрабіцца крыніцай культуры і дабрабыту.

Вось толькі ў с.-г. гуртках разам з першымі посьпехамі, з першым пераконаньнем моладзь атрымае правільны погляд на акружаючую іх рачаіснасьць. У цэлым шэрагу заданьняў, пакуль што спробных, у шэрагу нязначных, але паказальных дасягненьняў, будзе трэніравацца малады вум, маладая воля і маладыя сілы. Калі на моладзь ускладаецца столькі надзей на лепшае жыцьцё, дык пры аднэй умове, што яна дзесь падрыхтуецца, дзесь атрымае свае формы будучай сутнасьці.

Вельмі зразумела, што гэта не пад сілу аднаму, гэта магчыма лягчэй дасягнуць сумесна ў якойсь організацыі, аб'ядноючай і ўзмацняючай сродкі і сілы ўсіх і кожнага; гэткімі організацыямі зьяўляюцца толькі с.-г. гурткі, займаючыяся справамі і пытаньнямі тэй рачаіснасьці, таго промыслу, якія зьяўляюцца ўсім, чым жыве селянін, што яго акружвае праз усё жыцьцё.

Першая школа маладога аратага—гэта сел.-гаспадарчы гурток. Чым больш старанным вучнем гэтае школы будзе наш малады араты, тым больш поўнапраўным грамадзянінам будзе ён на роднай ніве.

Агроном **П. Ластоўскі.**

## Гутарка аб шматпольлі

У вапошнія часы сяляне беларускай вёскі выяўляюць вялікую цікавасьць да падняцьця сваёй гаспадаркі. Сялянства шукае новых шляхаў і спосабаў вядзеньня сельскай гаспадаркі, імкнецца атрымліваць агрономічныя веды, як лепш апрацоўваць глебу, якія ўжываць культуры, як палепшыць скаціну, як перайсьці на шматпольле і г. д.

Сярод гэтых мерапрыемстваў на 1-м месцы патрэбна паставіць шматпольле, з утварэньнем якога гаспадарка перабудоўваецца ў такім напрамку, што ўсе галіны яе даюць вялікую карысьць.

Шматпалёвы севазварот, інакш, плодазьменны севазварот, гэта такі парадак, калі розныя віды с.-г. расьлін—хлябоў, кораньплодаў, канюшыны і інш. траў—чаргуюцца пасьлядоўна адны за другімі. Што плодазьменнае чаргаваньне расьлін карысна, сялянствам прызнана вельмі даўно і яны перасталі сеяць жыта па жыту альбо авёс па аўсу і ў выніку гэтага пабудавалі ўсім вядомую „трохпалёўку“. Але калі мы паглядзім на парадак чаргаваньня расьлін у трохпалёвым севазвароце, то бачым, што пасьля жыта больш усяго сеецца авёс, ячмень, лён і г. д. Гэтыя культуры адносяцца да групы расьлін, якія высільваюць з глебы азот і з гэтага боку глеба бяднее, і амаль што зусім няма ў трохпалёўцы бабовых расьлін, якія ўзбагачаюць глебу азотам, бо яны, пры дапамозе бактэрый, могуць браць азот паветра для сваёй пажыўнасьці і нават частку пажыўных матэрый астаўляюць пасьлядоўным хлябом.

Адсюль зразумела, што пры трохпалёўцы зямля з кожным годам усё больш і больш бяднее, але пры трохпалёўцы ёсьць яшчэ недахваткі; у трохпалёвым севазвароце няма амаль што зусім сеяных траў: канюшыны, сэрадэлі, выкі, пялюшкі, і гаспадарка павінна карыстацца кармамі для харчаваньня скаціны, атрымліваемымі выключна з прыродных сенажацяй. Паміж тым, прыродных сенажацяй мала і многія гаспадаркі іх зусім ня маюць, а з узростам насельніцтва, які вымагае павялічэньня плошчы пахаці за кошт прыродных сенажацяй, патрэбнасьць у кармох яшчэ больш адну



ваецца. Недахват кармоў вядзе к зьмяншэньню скаціны ў гаспадарцы як у колькасьці, так і ў якасьці, а разам з гэтым зьмяншаецца і колькасьць гною, глебы бяднеюць і ўраджаі падаюць. Раней для ўгнаеньня поля пад жыта сяляне куплялі штучнае ўгнаеньне (парашкі), цяпер-жа гэтыя ўгнаеньні сталі даражэйшымі ды іх і мала.

Зусім другое становішча ў гаспадарцы, калі яна ўводзіць шматпалёвы севазварот. Правідловае чаргаваньне культур у перамежку з бабовымі ня толькі ня высільвае глебы, а нават, як паказана паперадзе, узбагачаюць глебу. З засевам аднаго поля канюшынай альбо выкай ці сэрадэляй павялічваецца лік добрых кармоў у гаспадарцы, што дае магчымасьць павялічыць лік і якасьць скаціны. З паляпшэньнем скаціны павялічваецца колькасьць гною і ўраджай ня толькі ня падае, а наадварот—узрастае.

Аб тым, што ўраджаі пры шматпалёвых севазваротах узрастаюць, можа кожны селянін пераканацца, заглянуўшы ў гаспадарку, якая ўжывае 2-3 гады сталы шматпалёвы севазварот, дзе ўбачыць, што ўраджай вышэй амаль што ня ў два разы, чым у гаспадарцы пры трохпалёвым севазвароце. У часопісі „Плуг“ шмат прыведзена гаспадарак, дзе лічбамі паказана, што дае гаспадарцы шматпольле, і ўраджай гэтых гаспадарак ніжэй 80—100 пудоў жыта з дзесяціны, 1.000—1.200 пудоў бульбы, 200—250 пуд. канюшыны ня бывае. У трохпалёвым севазвароце такіх ураджаяў сустрэць ня можна.

Севазваротаў шмат. Толькі той з іх будзе добрым, які адпавядае запатрабаваньням гаспадаркі. Як прыкладны севазварот для шчыльных суглінкавых глебаў, дзе добра расьце канюшына, можна раіць каштоўны 8-палёвы севазварот, які ўжо ўжываецца шмат якімі сялянамі Магілеўшчыны, Меншчыны, Случчыны і Віцебшчыны. Гэта: 1) чысты папар, 2) жыта альбо пшаніца, 3) бульба і караньплоды, 4) ярына з падсевам канюшыны, 5) канюшына першы год, 6) канюшына другі год, 7) жыта і 8) ярына.

Папар можна рабіць занятым, а пад жыта і ярыну можна падсеяць сэрадэлю. Калі няма выгану і кармоў, ідзе пад выпас жывёлы альбо застаўляюць яе на 3-ці год для выпасу.

У гэтым разе 8-польле зьменіцца на 9 польле.

Таксама для суглiністых глебаў можна раіць яшчэ пяціпольле проф. Даярэнкі: 1) папар чысты альбо заняты, 2) $1/2$ жыта, $1/2$ жыта з падсевам канюшыны, 3) $1/2$ канюшыны першага году, $1/2$ бульбы, 4) $1/2$ канюшыны 2-га году, $1/2$ бульбы па бульбянішч, 5) ярына. Пры такім севазвароце канюшына падсяваецца штогод на палову ржанога поля. Магчыма гэты севазварот ужываць так: 1) папар, 2) жыта з падсевам канюшыны, 3) канюшына 2-га году карыстаньня, 4) бульба, 5) ярына. У гэтым разе канюшына падсяваецца пад жыта праз год.

На пясковых глебах канюшына расьце кепска і тут патрэбны іншыя севазвароты і можна раіць такое 4-польле: 1) лубін на ўгнаеньне, 2) жыта, 3) бульба па гнаі, 4) ярына.

На палепшаных пясковых глебах можна ўжываць такое 4-польле: 1) заняты папар, 2) жыта з падсеўным лубінам па гнаі, 3) бульба, 4) ярына або: 1) бульба па гнаі, 2) ярына, пшаніца, ячмень, 3) авёс, грэчка, 4) лубін на ўгнаеньне, 5) жыта. Пры недастачы корму можна падсяваць сэрадэлю пад жыта і ярыну.

Можна шмат паказаць севазваротаў, але лепш будзе, калі кожны гаспадар альбо вёска ці прысёлак зьвяртаецца да мясцовага агронома і з ім абяруць той ці іншы севазварот, адпавядаючы ўмовам гаспадаркі. З дапамогай-жа агронома севазварот прыводзіцца ў жыцьцё.

Выбар севазвароту патрэбна зрабіць заранёй, каб з наступам вясны ўжо прыступіць к пасеву канюшыны і засеву бульбы і караньплодаў.

Ітак, трохпалёўка, якая ня спрыяе разьвіцьцю жывёлагадоўлі, павінна замяніцца шматпольлем.

Наркамзем у гэтым годзе пабудаваў свой плян дапамогі сельскай гаспадарцы такім чынам, што ў першую чаргу будзе зьвернута ўвага на ўвядзеньне шматпольля, для чаго ідзе загатоўка насеньня кармовых траў (канюшыны, выкі, сэрадэлі), каб задаволіць патрэбы насельніцтва, але ў першую чаргу насеньне канюшыны будзе выдавацца ў крэдыт тым, хто абмяркуе засеў яе ў правіловым севазвароце.

Кожны селянін павінен памятаць, што „без шматпольля — няма добрай скаціны і вялікага ўраджаю“.

**П. Х. Заяц.**





Іл. Барашка

# Ї хвартух з зрэб'я ў крыві...

*(Легенда).*

Вось сёньня мне
ўсплыла на памяць
легенда старая, што я калісьці у народзе чуў.
А слухаў я яе з запалам пачуцьця,
канца я не чакаў яе...
Я ёй аддаўся быў увесь
і разважаў
пасвойму я аб ёй.
Яе я прыраўняў да нас, да Беларусі,—
і вышла, што старая фінікійская легенда
яшчэ і сёньня сымболь мае свой
у жыцьці народаў сьвету ўсяго.
Так слухайце-ж яе!

Ї жыў,
— даўным даўно вось гэта была.—
на ўсходзе поўдня цар Аллон.
Меў царства моцнае сваё.
Народ у паслухмянстве быў...
А цар крывёю жыў народу.
Штодня зьядаў ён сем
з свайго народу ціхага асоб,
— бо сем галоў ён меў...
У царстве тым асілак жыў—
каваль звычайны, просты, грубы...
Народ кахаў яго за Працу і Адданасьць.
Ї меў сыноў дванаццаць ён.
Ї выпіў цар Аллон
з іх кроў. Ня выпіў
проста кроў, а высмактаў яе
з здаровых цел
і моцных духам вольнасьці,
прыроды,
ў якой стары каваль іх гадаваў...
Ї кавалёвая прышла чарга, урэшце...
Змагаўся з тым народ,
бо ўжо пачуў, што кроў цячэ,
струменіць цёмным вірам...
Але—
на тое цар...
Крывёю каваля удоваль ён напіўся,
— як ніколі!
Ї агалелы труп
быў кінуты за вал, у царстве тым...
Народ,
што шанаваў таго вось каваля,
знашоў яго
і урачыста пахаваў...

А кавалёвы хвартух зрэбны,
ў крыві абмочаны,
народам з каваля быў зьняты,
і той народ
эмблемаю сваёй пакуты
яго зрабіў...
А цар, дазнаўшы гэта,
сваім паслугачом загад аддаў забраць—адбіць
ў народа гэты хвартух—сьцяг пакуты.
Ї быў ён адабраны...
Але патрабаваў яго народ
у цара
назад і дабіваўся
сваёй крывёй і целам, і імкненьнем...
А цар схаваў яго.
Ї даў быў новы сьцяг,
заместа зрэб'я—аксаміт;
крыві заместа—золата на ім...
Народ ня ўзяў яго...
Народ змагаўся ўжо з каронай, тронам
й дзяржаваю Аллона...
Гады-ж ішлі, ішлі вякі,
тысячалецьці йшлі...
Народ змагаўся...
Ї скінулі агіднага Аллона.
Ї кавалі—народ—ўзялі ўладу.
Ї тое, што ўвабрана пры цары у золата было
—разапранулі.
Ї хвартух з зрэб'я ў крыві кавальскай
сягонешні
угледзеў
сьвет...
Эмблемай вольнасьці
сягоньня
астаўся хвартух кавалёвы той,
што быў эмблемаю змаганьня і пакуты пры цары...
Ї вырас той народ.
Ї сьвет вялікі быў.
Ї падзяліў народ
чырвоны хвартух той на дробныя кавалкі,
раздаўшы сьвету ўсяму.
Дастаўся й нам,
народу Кавалёў і Працы,
кавалак хвартуху таго.
З пашанай узялі яго мы
і літары чатыры вывелі на ім:
— *Б. С. С. Р.*

1 студзеня 1926 г.



# Ведай свой край

Проф. І. А. Сербаў

## Савецкая Беларусь

### Гісторыя

#### Даўні пэрыод.

Беларусь гістарычна-этнографічная займае заходнюю частку Ўсходня-Эўрапэйскай нізіны ад пачаткаў Волгі, Дняпра і Заходняе Дзьвіны да правабярэжнага вадападзелу Прыпяці і ад Заходняга Бугу да пачаткаў Акі і сярэдняга цячэньня Дзісны на ўсходзе. Тэрыторыя ў агульным складае да 300.000 кв. кілёмэтраў, з насельніцтвам каля 13.000.000 чалавек. З іх, прыблізна: 70 проц. беларусаў, 16 проц. рускіх, 10—яўрэяў, 2 проц. палякоў, 1 проц. украінцаў і 1 проц. іншых нацыянальнасьцяй—літоўцаў, латышоў, татар і цыганоў На ўсім гэтым абшары чутна жывая, беларуская мова і ўсюды відаць беларуская культура духоўная (мова, народная творчасьць) і матэрыяльная (вопратка, побыт).



Наваградак. Руіны замку.

У склад Беларусі ўваходзяць тры асноўных пляменьні ўсходніх славян: 1) Крывічы—як Полацкія, так і Смаленскія, 2) Радзімічы па ўсім вадазборы Сожу і 3) Дрыгвічы па Нёманскіх узвышшах і Палескай нізіне. Усе гэтыя пляменьні маюць сваю багатую гісторыю старажытнага пэрыоду і да гэтых часоў захоўваюць некаторыя асаблівасьці свайго племені. Аб культурным і палітычным жыцьці Крывічоў, Радзімічаў і Дрыгвічоў VI-XI стагодзьдзяў сьведчаць шматлікія старажытныя паселішчы і гарадзішчы, волакі і перагоны, якія ляжаць па старажытных вадзяных і сухаземных шляхох зносін. У X стагодзьдзі, у пэрыод Варага-Русаў, на палітычную арэну выступаюць буйныя дзяржаўныя організмы вышэйназваных славянскіх пляменьняў, як Полацак, Смаленск, Тураў і Пясчанка — дзяржаўны асяродак Радзімічаў. Ва ўдзельны пэрыод гэтыя дзяржавы паступова падзяляюцца на дробныя княствы і пападаюць пад уплыў зноў утвораных славянскіх дзяржаў—Ноўгараду, Смаленску, Чарнігаву, Кіеву і Галічу.

#### Літоўска-беларускі пэрыод. Вунія з Польшчай.

Пачынаючы з паловы XIII стагодзьдзя, дробныя Беларускія княствы паступова аб'ядноўваюцца ў Літоўска-Беларускую дзяржаву. Утвараецца моцная, па таму часу, Літоўска-Беларуская дзяржава. Па Крэўскай згодзе ў 1385 г. Літоўска-Беларускае Вялікае княства ўвайшло ў саюзнае аб'яднаньне з Польшчаю, захаваўшы за сабою поўнасьцю свае незалежныя правы. З 1528 году дзяржава мае ўжо свой поўны збор законаў—Літоўскі Статут, напісаны на беларускай мове. Гэты пэрыод і лічыцца росквітам беларускае культуры. Па Люблінскай згодзе 1569 году Літоўска-Беларуская дзяржава ўвашла з Польшчаю ў палітычную вунію (згоду), страціўшы частку сваіх незалежных правоў па пытаньні надворных зносін і ўнутранога кіраваньня.

## Беларусь у складзе Расійскай імпэрыі.

У канцы XVIII стагодзьдзя, пры падзелах Рэчы Паспалітай, Беларусь перашла ў склад Расійскай імпэрыі пад назваю Паўночна-Заходняга краю Расіі, не захаваўшы за сабою нават правоў унутранога самакіраваньня.

Полёнізацыя, з аднаго боку, і русыфікацыя—з другога начыста аграбілі Беларусь як з матэрыяльнага, так і з культурнага боку, пакінуўшы за сабою самыя цяжкія ўспаміны ў памяці народу. Беларуская мова і літаратура маглі жыць толькі ў курнай хаце беларуса. Мець школу на матчынай мове не дазвалялася. Беларусь ня мела ў сябе ніводнай вышэйшай навучальнай установы. Усякі беларускі рух, нават культурна-выхаваўчы, сур'ёзна забараняўся. Культурныя каштоўнасьці з ахвотай зьбіраліся на Беларусі і вывозіліся за яе межы—у Маскву, у Кракаў, Варшаву і інш.

Сельска-гаспадарчая прамысловасьць, як грунт народнае гаспадаркі Беларусі, пашыралася толькі ў буйных абшарніцкіх маёнтках, якія мелі шырокі дзяржаўны крэдыт, монополію на браварніцтва і розныя прывілеі чыста фэўдальнага характару. Напрыклад, абшарнікі шырока карысталіся сваімі каставымі правамі мець сваю прыдворную поліцэйскую варту і ўзброеныя атрады чаркесаў або казакоў для расправы з рабочымі і мясцовымі сялянамі за ўсякія, нават самыя дробныя непаразуменьні.



Зьміцер Жылуновіч.

Старшыня Часовага Рабоча-Сялянскага Ураду Беларусі, апавясьціўшага 1 студзеня 1919 г. Беларусь незалежнай Савецкай Социялістычнай Рэспублікай.

Селянін сваёю дробнаю натуральнаю гаспадаркаю заставаўся ў пастаяннай няволі ў зямляўласьніка або капіталістага, выконваў розныя павіннасьці і ўносіў падаткі пад строгім назіраньнем інстытуту земскіх начальнікаў і команды поліцэйскіх стражнікаў. Урэшце, зямляўласьнікі пазбавілі сялян іх законнага права на агульную лясную пашу, прагоны, выганы і вадапоі. Сялянства вяло ўпартую барацьбу за свае жыцьцёвыя правы: узьнімаліся сялянскія бунты, выклікаўшыя значныя процэсы і карныя экспэдыцыі.

Фабрычна-заводзкая прамысловасьць наогул слаба разьвівалася на Беларусі, таксама знаходзячыся ў руках зямляўласьнікаў і капіталістых, якія цяжка эксплёатавалі сваіх рабочых, ня прымалі пад увагу ніякіх нормаў на працяжнасьць працоўнага дня і на аплату працы. Пагэтаму рабочай клясе жылося ня лепей, чым селяніну.

Лясная гаспадарка як зямляўласьнікаў, так і казённых лясьніцтваў зводзілася да продажы на высечку вялікіх лясных абшараў. Навагодняя контрактавыя ярмаркі ў Менску і Гомлі ўтваралі мільённыя звароты па збываньні лясных матэрыялаў на замежны рынак. Такім чынам, лясныя пушчы, адзіночнае прыроднае багацьце Беларусі, зьніштажалася. На іх месцы засталіся ўзгоркі, па якіх на волі гуляюць буйныя вятры і разносяць мора пяскоў.

Політыка аграбленьня і зьніштажэньня, вядома, прывяла да таго, што беларус мог вырашыць сваё векавое пытаньне толькі шляхам социяльнай рэволюцыі—вырваць з цэпкіх рук сваю як політычную, так і экономічную незалежнасьць.

У 1905 годзе ён, разам з рабочымі і сялянамі Расіі, зрабіў першы крок па гэтым шляху, асьвяціўшы яго чырвоным заравам палаючых маёнткаў, факторый і гандлёвых контор. З таго часу выразна рэволюцыйны рух на Беларусі ня спыняўся да 1917 году. Рабочая кляса дзейнічае сваімі політычнымі партыямі, а сялянства падымае бунты за сваю зямлю і волю, выказваў слоўмі свайго поэты набалеўшую душу народу ў беларускай марсэльезе: „Адвеку мы спалі".

## Утварэньне Савецкай Беларусі.

### Яе міжнароднае становішча і адміністрацыйны падзел.

Вялікі Кастрычнік прынёс, урэшце, Беларусі політычную незалежнасьць і волю, якія дасталіся ёй дарагою цаною пасьля цяжкае барацьбы і заядлых боек з Нямеччынай і украінскімі, польскімі окупантамі. Спаленыя гарады і пасяленьні з братэрскімі могілкамі навочна паказваюць шляхі, па якіх ішлі окупанты, асабліва польскіх генэралаў: Жэліхоўскага і Довбор-Мусьніцкага.

1 студзеня 1919 году Часовы Рэволюцыйны Рабоча - Сялянскі Савецкі Урад Беларусі сваім *маніфэстам* абвяшчае Беларусь вольнаю і політычна незалежнаю.

Гаротніцкая, змучаная Беларусь, Беларусь працоўных і бедных сялян, увесь доўгі час свайго існаваньня якая служыла крыніцаю абагачэньня польскага вяльможнага панства—зямляўласьнікаў, зладзеяў-купцоў і ўсіх іншых багатых крывапіўцаў, а потым захопленая расійскім крывавым самаўладзтвам і ўсялякім чыноўніцтвам. Яе абшуквалі і абманвалі з касьцельных амбонаў ксяндзы і з алтароў папы; закованая з ног да галавы ланцугамі няволі, цярпеўшая ўвесь час зьдзекі і глумленьні і перажыўшая цяжкае ярмо нямецкае окупацыі, цяпер вызваляецца ад вялікай мукі сьмелым націскам Чырвонай арміі і прылучаецца да новага, вольнага жыцьця, якое будуецца на падставах комунізму, на фундаманце міжнароднага яднаньня працоўных.

Вялікая Кастрычнікавая Рэволюцыя ў Расіі, зьвярнуўшы ў разваліны паганае ўладарства абшарнікаў, фабрыкантаў, ксяндзоў і папоў—уладарства абману, няволі і ўціску—палажыла фундамант новае будовы жыцьця з уладаю самога працоўнага народу; пачаўшы з Расіі, яна запаліла ўсясьветны агонь вызваленьня працоўных ад уціску цароў і капіталістых. Полымя гэтага агню з кожным днём і з кожнаю гадзінаю абымае ўсё большыя абшары, пераходзіць ад аднэй старонкі ў другую, гонячы вон ад працоўных гушч цемру, несьвядомасьць і пакорнасьць, будзіць сьвядомасьць да паўстаньня

супроць прыгнятацеляй; заве к помсьце і пагражае затапіць усіх заклятых ворагаў волі і шчасьця — ворагаў рэволюцыі, працерабіць шырокі чырвоны шлях да панаваньня свабоднае працы, да панаваньня комунізму, да панаваньня братэрскага яднаньня працоўных усяго сьвету...

Імем стагодзьдзямі цярпеўшай няволі, рабства і зьдзекаў Беларусі, а цяпер вольнай Савецкай Беларускай Рэспублікі, імем Чырвонай арміі, імем соцыяльнай рэволюцыі і міжнароднага соцыялізму мы, Часовы Рабоча-Сялянскі Ўрад Беларускай Савецкай незалежнай рэспублікі, пастаўлены на пасты рашэньнямі апошняе конфэрэнцыі комуністычнае партыі і воляю саветаў Беларусі, абвясьціў перад усім сьветам:

1. З гэтага часу ўся ўлада на Беларусі належыць толькі саветам рабочых, сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў,

2. Яшчэ захаваўшаяся дзе-б гэта ні было на Беларусі ўлада нямецкіх, польскіх і украінскіх окупантаў з гэтага часу лічыцца ліквідаванай.

3. Прадажная буржуазія і беларуская рада з яе так званымі „народнымі міністрамі" абвяшчаецца па-за законам.

4. Усе законы, згоды, пастановы як рады і яе слуг, гэтак сама і нямецкіх, польскіх і украінскіх окупацыйных урадаў лічацца не правамоцнымі, прыказы-ж, распараджэньні нямецкага ўраду, якія тычацца парадку адходу нямецкіх салдат з Беларусі, застаюцца ў моцы.

5. З гэтага часу засноўваецца на Беларусі рэволюцыйны парадак, усе контррэволюцыйныя выступленьні, а гэтак сама і спробы ўтварыць пагромы, грабеж і гвалт будуць бязьлітасна карацца па ўсёй строгасьці рэволюцыйных законаў.

6. Рабочыя, сяляне і наогул працоўныя ўсіх нацыянальнасьцяй, якія жывуць на Беларусі, карыстаюцца роўнымі правамі і знаходзяцца пад забаронаю рэволюцыйных законаў.

7. Уся зямля паноў і буйных абшарнікаў, манастыроў, цэркваў, касьцёлаў і духавенства, з усім жывым і няжывым інвэнтаром, а таксама лясы, воды і нетры зямлі робяцца ўласнасьцю працоўнага народу Беларусі.

8. Усе жалезныя дарогі, шляхі зносін, паштовыя, тэлеграфныя, тэлефонныя сеткі, фабрыкі, заводы і банкі абвяшчаюцца ўласнасьцю рабочых і беднага сялянства Беларусі.

9. Мясцовыя саветы павінны абараняць народную маемасьць ад расьцягваньня і псаваньня, прыцягваючы віноўных да адпаведнасьці.

10. Устанаўляецца 8-гадзіны працоўны дзень бяз усякае звышчасовае працы і адначасова ўваходзяць у моц усе дэкрэты Расійскае Соцыялістычнае Фэдэрацыйнае Савецкае Рэспублікі па захаваньні рабочае клясы... ЦК Комуністычнае Партыі Літвы і Беларусі, ЦК Агульнага Яўрэйскага рабочага саюзу „Бунду", ЦК Беларускае Комуністычнае організацыі і Цэнтральным Бюро профсаюзаў—сваёю дэкляроцыяю абвяшчае Беларусь Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікаю.

Змучаная Беларусь, старонка беларускіх, рускіх, польскіх і яўрэйскіх рабочых і сялян, пры дапамозе адважнай Расійскай Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, закончвае справу свайго вызваленьня. Чырвоныя войскі, разьбіваючы апошнія астаткі шляхецкай арміі, падходзяць да заходніх этнографічных граніц Беларусі. Рабоча-сялянскі народ Беларусі цяпер можа вольна выявіць сваю волю і сам адзначыць свой лёс, формы свайго далейшага існаваньня з суседзямі.

Організаваная рабочая кляса і працоўнае сялянства Беларусі (комуністычная партыя) Літвы і Беларусі, Беларуская комуністычная організацыя, Агульны Яўрэйскі рабочы саюз „Бунд" і Цэнтральнае Бюро профэсыянальных саюзаў г. Менску і Менскай губэрні, грунтуючыся на волі працоўных гушчаў, выяўленай на І зьезьдзе *Саветаў Беларусі ў лютым м. 1919 году* ў шэрагу рэзолюцый і пастаноў павятовых савецкіх зьездаў і зьездаў рабо-



Дом Культуры ў Менску, дзе ў 1924 г. адбыўся VI Надзвычайны Зьезд Саветаў, скліканы з прычыны далучэньня да Беларусі Віцебшчыны і Магілеўшчыны.

чых і сялянскіх партый, у поўнай згодзе з Чырвонай арміяй і Рэволюцыйным вайсковым саветам Заходняга фронту імем паўстаўшых рабочых і сялян абвяшчаюць незалежную Соцыялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусі.

Імем працоўнага сялянства і працоўных гушчаў комуністычныя і рэволюцыйна-соцыялістычныя рабоча-сялянскія організацыі Беларусі абвяшчаюць:

Што ўсе законы і пастановы польскай окупацыйнай улады аб зьвярненьні прыватнай уласнасьці ў Беларусі адмяняюцца.

Асноўныя палажэньні аб організацыі народнагаспадарага жыцьця, абвешчаныя 1-га студзеня

1919 г. ў маніфэсьце часовай рабоча-сялянскай улады Беларусі, зьвяртаюцца ў поўнай меры...

Першы Беларускі зьезд саветаў *дэкляраваў* аб заснаваньні між БССР і РСФСР цеснай фэдэрацыйнай сувязі:

Рабочыя, сяляне, батракі і ўсе працоўныя Беларусі, скінуўшы з сябе ўладу беларускіх паноў і кулакоў, буржуазнай беларускай рады думкамі свае кіраўніцы—беларускае комуністычнае партыі—абвясьцілі Соцыялістычную Савецкую Рэспубліку, каб паказаць перад ім перад усім сьветам цьвёрдую волю рабоча-сялянскай Беларусі, накіраваную на канчатковае зьніштажэньне панаваньня капіталу і для заснаваньня соцыялістычнага будаўніцтва. Рабочыя і сяляне Беларусі ў той-жа час ведаюць, што яны зьяўляюцца адным з атрадаў вялікае пролетарскае арміі, што бяз цеснага саюзу з рабочымі і сялянамі ўсіх савецкіх старонак ім ня скончыць будаўніцтва новага вольнага жыцьця, ня скончыць соцыялістычнага перабудаўніцтва. Самавызначыўшаяся руіна прыгоннай царскай Расіі, Савецкая Беларусь, прызнае неабходным заснаваць цесныя экономічныя і палітычныя сувязі са сваім старэйшым братам—Расійскаю Савецкаю Рэспублікаю, якая дапамагла Беларускай Рэспубліцы вялікую помач пры адбудаваньні яе разбуранае гаспадаркі. Грунтуючыся на гэтай волі мільёнаў рабочых і сялян Беларусі, Першы Ўсебеларускі Зьезд Саветаў вольна пастанаўляе: Пачаць перамаўленьні з Расійскай Савецкаю Рэспублікаю для заснаваньня фэдэрацыйнай сувязі між ёю і Савецкаю Беларусьсю і выбраць для гэтае мэты камісію, адпавядаючую перад вылучаным зьездам органам улады. Падрахоўваючы, разам з тым, цесную сувязь і залежнасьць, існуючую між рабочымі і сялянамі ўсіх частак былае Расійскае імпэрыі, зьезд думае, што толькі вольны, добраахвотны саюз працоўных усіх, цяпер незалежных савецкіх рэспублік, забясьпечыць панаваньне рабочых і сялян у іх барацьбе з усім астатнім капіталістычным сьветам. Пагэтаму зьезд зьвяртаецца да ўсіх братэрскіх, незалежных соцыялістычных рэспублік з прапановай пайсьці па прыкладу рабочых і сялян Беларусі і прыступіць да перамаўленьняў для заснаваньня фэдэрацыйнае сувязі з Савецкаю Расіяю і між сабою. Толькі аб'яднаўшыся і згрупаваўшыся ў адну працоўную сям'ю, рабочыя і сяляне ўсіх старонак, дзе атрымала верх пролетарская рэволюцыя, змогуць пранесьці соцыялістычны сьцяг праз усю Эўропу і злучацца ў адзіны савецкі хаўрус з рабочымі і сялянамі—працаўнікамі ўсяго сьвету.

Саюзная згода між РСФСР і БССР ратыфікавана абодвума згаворваючыміся бакамі 30 ліпня 1921 году.

Па згодзе з Польшчаю ў Рызе 18 сакавіка 1921 г. ўся заходняя палова Беларусі засталася пад уладаю Польшчы. Невялікая паўночна-заходняя частка Беларусі адышла да Латвіі.

У часе ўтварэньня паміж савецкімі рэспублікамі Саюзу (1922 г.) Савецкая Беларусь увашла незалежнай, самастойнай рэспублікай у гэты саюз, як роўная з роўнымі.

У БССР дзяржаўным асяродкам, якім быў абвешчаны г. Менск, спачатку ўвашло толькі шэсьць паветаў былае Менскае губэрні, прычым паветы Бабруйскі і Чэрвеньскі ўвашлі цалкам, а Барысаўскі, Менскі, Слуцкі і Мазырскі з абрэзанымі польскай граніцаю краямі. У 1924 г. па ўзаемнай згодзе прылучыліся да БССР суседнія часткі Віцебскае, Смаленскае і Гомельскае губэрні.

У 1924 г. ў БССР праведзена адміністрацыйнае раёнаваньне, якое дало наступную табліцу:

| НАЗВА | Лік | | | | | Плошча |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Раёнаў | Сельсаветаў | Гарадоў | Мястэчак | Паселішчаў сельскага тыпу | кв. кілём. |
| БССР . . | 100 | 1229 | 25 | 49 | 30859 | 109.950 |

Па дзяржаўнай конституцыі органы кіраваньня сельсаветаў перавыбіраюцца насельніцтвам праз кожны год. Раёны і акругі знаходзяцца пад кіраўніцтвам сваіх выканаўчых камітэтаў, якія выбіраюцца зьездамі саветаў. На чале дзяржавы стаіць ЦВК, які выбіраецца на агульным зьезьдзе саветаў. Краінай кіруе Савет Народных Камісараў, у у склад якога ўваходзяць: народныя камісары—Асьветы, Аховы здароўя, Працы, Земляробства, Гандлю, Фінансаў, Соцыяльнай забясьпекі, Унутраных спраў, Інспэкцыі і Юстыцыі; старшыні—дзяржпляну, Экосо, ВСНГ, ЦСУ і ГПУ; упоўнаважаныя па замежных і вайсковых справах, шляхоў зносін і па замежным гандлі.

## Тытун—атрута, якая шкодзіць здароўю чалавека

Хочаш быць здаровым—кідай курыць!
Лісты расьлін з так званай пароды „вашывай псінкі“, калі
адбудуць процэс бушаваньня, утрымліваюць у сабе 0,8—2,5 про-
цанту нікоціну. Дым з тытуну дае шкодныя для організму ча-
лавека атруты: нікоцін, вокісь вуглецу, аміяк, сінільны квас,
серавадарод і інш. 14 тысячных грам нікоціну, прынятыя з ва-
дой чалавекам, ужо вызываюць азнаку атручэньня нікоцінам.
У 20 папяросах—8 сотых грам нікоціну, а гэты лік атруты,
калі будзе прыняты чалавекам, можа яго адразу забіць.
Нікоцін—моцная атрута для сэрца і нэрваў. Пачатак ку-
рэньня шкодзіць атрутай на сымпатычную нэрвовую сыстэму,
г. зн. на такія нэрвы, ад якіх залежыць правілова жыцьцё і
праца сэрца, нутра, крываносных пасудкаў і г. д.
У працягу свайго жыцьця ў сярэднім чалавек выкурвае
10 пудоў тытуну. У прывычных курыльшчыкаў разьвіваецца
перараджэньне крываносных пасудкаў, іх склероз, а ад яго
можа атрымацца разрыў крываносных пасудкаў з паралюшам
рук, ног і г. далей. Звычайныя зьявішчы ў заўзятых курцоў:
катар дыхавіцы, дыхальнага шляху, нутра, ташната, кружэньне
галавы, паносы, агульная млявасьць, біцьце сэрца, задышка,
кашаль, вобмаракі і г. д.

Асабліва ў старых і дзяцей пачынаецца малакроўнасьць адсутнічае апэтыт, прытупляецца памяць, заўжды шуміць у вушах.

Усё гэта час-ад-часу пагаршае і скарачае жыцьцё. У людзей, якія маюць слабае здароўе, і ў дзяцей ужо нават пры ўдыханьні дыму ад тытуну могуць быць болі ў галаве, адчуваецца даўленьне ў грудзёх і тая млявасьць, якая бывае перад вобмаракам.

Курцы сваім курэньнем атручаюць асоб, якія ня кураць, на сходах, ва ўстановах, у вагонах і г. д.

У дзяцей, якія знаходзяцца ў памяшканьні, дзе маецца шмат дыму ад тытуну, могуць здарыцца раптоўная сударга і паралюшы.

Папера, асабліва грубая (газэтная і г. д.), дадае да табачнага дыму вокісі вуглецу (угар). Неапрацаваны фабрычным шляхам тытун яшчэ больш утрымлівае ў сабе атруту.

Меншасьць курцоў атручае дымам шмат людзей, якія ня кураць.

Курцы маладыя рана зношываюць свой організм і хутка старэюць.

Г. Б.

# Шашкі № 1.

*Пад рэдакцыяй В. Судніка.*

Пачынаючы з гэтага нумару, рэдакцыя „Малады Араты“ будзе даваць адзін раз у месяц месца для шашачнага аддзелу.

Аддзел будзе мець на мэце азнаёміць пачынаючага аматара шашачнай гульні з яе асноўнымі правіламі, з пачаткамі партый, задачамі і інш.

Просьба да чытачоў нашай часопісі, якія цікавяцца шашачнай гульнёй, прысылаць для аддзелу свае партыі, паведамленьні аб шашачным жыцьці раёну, вёскі, хаты-чытальні, весткі аб існуючых шашачных гуртках і г. д.

З свайго боку, на ўсе пытаньні, якімі будуць цікавіцца чытачы, рэдакцыя з ахвотаю будзе даваць адказы.

## Правіла шашачнай гульні

Шашачная гульня вядзецца дзьвёма асобамі на шашачнай дошцы. У распараджэньні кожнага з граючых маецца па 12 шашак: у аднаго белага колеру, а ў другога—чорнага.

Шашачная дошка прадстаўляе сабою квадрат, падзелены 8-ю ўдоўжнымі (простастаўнымі) і 8-ю папярэчнымі (паземнымі) рыскамі на 64 роўных квадраты, якія называюцца палямі альбо клеткамі. Гэтыя палі, для большай яснасьці, бываюць пазьменна фарбаваны ў якія-небудзь два колеры: адзін цёмны, а другі сьветлы.

Цёмныя палі (клеткі) прынята называць чорнымі, а ясныя—белымі.

*Перад гульнёй дошка ставіцца так, каб па правую руку ад абудвых граючых знаходзілася белае кутняе поле.*

## Шашкі

Як ужо спаміналася, перад гульнёй кожны з гулякоў мае па 12 шашак—адзін белага колеру, а другі чорнага.

Шашкі перад пачаткам гульні з кожнага боку растаўляюцца па чорным палям (клеткам) на першых трох радох ад граючага (дыяграма № 1).

**Дыяграма № 1.**



Першапачатковая растаноўка шашак.

## Ходы

Такім чынам, мы ведаем, што шашкі разьмяркоўваюцца толькі па чорным палям, прычым *на кожным чорным полі можа стаяць толькі адна шашка.*

Цяпер паглядзім, як-жа ходзяць шашкі і што завецца ходам.

За ход прынята лічыць перасуваньне шашкі на сумежнае чорнае поле, а таксама ўзяцьце шашак супрацІўніка.

Кожная шашка можа хадзіць *толькі ўпярод* на сумежнае чорнае поле, калі яно не занята другой шашкай.

Калі-ж гэта сумежнае чорнае поле занята варожай, прымерна, чорнай шашкай, а наступнае за ёй поле вольнае, дык чорная шашка „б'ецца“, г. зн. белая шашка пераскаквае праз чорную на наступнае за ёй чорнае поле, а чорная шашка зьнімаецца з дошкі.

Калі зьяўляецца магчымасьць узяць шашкі супраціўніка адначасова па двух кірунках, дык выбар аддаецца погляду таго, хто „б'е“.

*Біць непрыяцельскія шашкі*, калі да таго маецца магчымасьць, *трэба абавязкова*, прычым *шашкі б'юцца як упераd, так і ўзад.*

За адзін прыём можа быць пабіта столькі шашак, колькі стаіць на шляху.

## Дамкі і іх ход

Калі шашка аднаго з граючых у час гульні дойдзе да апошняга (паземнага) раду дошкі, дык яна пераварачваецца ў дамку. Дамка можа хадзіць ня толькі на суседнае чорнае поле, але і па ўсёй даўжыні раду чорных клетак на ўсялякае месца, не занятае шашкамі. У вадзнаку ад простых шашак *дамка можа хадзіць і ўперад і ўзад.*

„Б'е“ яна няпрыяцельскую шашку, калі за той беспасрэдна астаецца свабоднае чорнае поле.

У вадзнаку ад простых шашак, дамка „б'е“ ня толькі побач стаячую шашку супраціўніка, але й шашкі на любой ад сябе адлегласьці, калі яны разьмяркованы ня побач, а праз клетку.

Прычым пасьля бойкі дамка можа стаць на клетку, якая беспасрэдна знаходзіцца за шашкай супраціўніка, ці на другую свабодную клетку ў гэтым радзе па погляду бяручага.

# Перапіска з нашымі супрацоўнікамі

**Я. Абмётку** (*Азярыцкая Слабада*). Прысланыя вершы і частушкі—слабыя, ня пойдуць, бо, акрамя таго, што новага ў іх няма нічога,—адсутнічае нават і рыфма. Пагледзь сам:

Кажуць біблії сьвятыя,
Што бог сільны і магучы;
Ну, дык добра няхай ён зробіць,
Што мы просім кожны дзень.

Тое-ж самае і ў другіх вершах і частушках:

Зіма халодная настала,
Сьнег, бы белы пух укруг,
Ды толькі ад марозу
Пад нагамі хрусьціць.

Далей: З мацершчынай мы змагаемся, а ты ў сваіх частушках выкарыстоўваеш яе нават поўнасьцю. Гэтак нельга. Пішы пра жыцьцё вашай моладзі:

**В. Варкалу і Максімаву** (*Мсьціслаўль*). Прысланыя частушкі слабыя, чакаем мацнейшых. Супрацоўнікамі залічылі.

**А. Вераб'ю.** Супрацоўнікам залічылі. Напішы больш падрабязны допіс аб жыцьці вашай моладзі з фактамі.

Загадкі і задачы выкарыстаем.

**Тарасу Хадкевічу.** Вершы зьмяшчаем. Цяпер па ўсёй Савецкай Беларусі закладаюцца гурткі „Маладняка“, якія працуюць пад кіраўніцтвам акруговых філій. Таму радзім і моладзі вашай вёскі закласьці маладнякоўскі гурток, згуртаваўшы ў ім усіх дапісчыкаў і пішучых вершы і апавяданьні. Залічэньне ў „Маладняк“ праводзіцца праз акруговыя філіі. Жадаючы ўступіць у сябры аб'яднаньня падае зьяву, прыклаўшы свае творы. „Малады Араты“ даручае табе правесьці падпіску сярод вашай моладзі на „Араты“.

Рэдактары: Іл. Барашка. Д. Ратнэр.

Менск, 1-я Дзярж. друк. Зак. № 1972. Галоўлітбел № 16557.